Год V. Травень-Чэрвень 1936 г. № 5-6 (53-54)




Ты ѐси Пе́тръ,
и на се́мъ ка́мени созижду це́рковь мою. Мат. 16. 18.

# БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

ВІЛЬНЯ

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

O. Antoni Niemancewicz
Dubno, Seminarjum Papieskie.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka Pohulanka 6.
Konto czekowe P.K.O.: O. Paweł Macewicz 60.601.
Skrytka pocztowa Nr. 245.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

**Беларуская рэлігійная часопісь.**

Вільня. Травень-Чэрвень 1936 г. № 5-6 (53-54).

## Сьвята Перанясеньня Мошчаў Сьвятога Мікалая Цудатворца з Міру да Бары.

*(9 (22) траўня).*

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*
### *ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ, РАЗЬДЗЕЛ 6, 17 — 23.*
### *ЗАЧАЛА 26.*

*17. І, зыйшоўшы з імі, стаў Ён на роўным месцы, і множства вучняў Яго і многа народу з усяе Юдэі і Ерусаліму і прыморскіх месцаў Тырскіх і Сідонскіх,*

*18. што папрыходзілі паслухаць Яго і пазбыцца хворасьцяў сваіх, як цярпячыя муку ад нячыстых духаў; і здаравелі.*

*19. І ўвесь народ стараўся дакрануцца да Яго, бо ад Яго зыходзіла сіла і аздараўляла ўсіх.*

*20. І Ён, падняўшы вочы Свае на вучняў Сваіх, казаў: шчасьлівыя ўбогія духам, бо вашае ёсьць Царства Божае.*

*21. Шчасьлівыя галодныя цяпер, бо насыціцеся. Шчасьлівыя плачучыя цяпер, бо будзеце сьмяяцца.*

*22. Шчасьлівыя вы, калі зьненавідзяць вас людзі і калі прагоняць вас і будуць зьневажаць і выкінуць імя вашае, як зло, за Сына Чалавечага.*

*23. Радуйцеся ў той дзень і весялецеся, бо вялікая нагарода вам на нябёсах.*

---

Сьвятая Царква паводле ўсходняга абраду сьвяткуе вельмі ўрачыста 2 разы ў год сьвята на чэсьць Сьв. Мікалая Цудатворца. Адзін раз зімой 6 сьнежня, а другі раз вясной — 9 траўня паводле старога стылю.

Вясеньняе сьвята сьвяткуецца на памятку перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая Цудатворца з Мір Лікійскіх у Малой Азіі ў горад Бары ў Італіі.

У адзінаццатым стагодзьдзі на ўсходзе ў Малой Азіі хрысьціяне былі вельмі прасьледаваныя туркамі - мусульманамі. Туркі зьдзекаваліся над хрысьціяна, нішчылі іх сьвятыні. У Мірах Лікійскіх, дзе былі мошчы сьв. Мікалая, таксама мусульмане налажылі сваю апеку на царкву са сьвятымі мошчамі Мірлікійскага Цудатворца.

Хрысьціяне з захаду, каб не дапусьціць да зьнявагі сьв. Мікалая, выкралі сілаю сьв. мошчы ў 1091 годзе ды перавязьлі параходам да гораду Бары ў Італіі.

У часе падарожы Госпад Бог праславіў сьватога цудамі, у Бары хрысьціяне маглі свабодна паважаць сьв. Мікалая, дзе да сяньняшняга дня знаходзяцца ягоныя сьв. мошчы.

На ўсходзе, асабліва ў Расеі, сьвяткуецца вельмі ўрачыста памятка перанясеньня мошчаў сьв. Мікалая да гораду Бары.

Трэба зьвярнуць на тое ўвагу, што ў 1054 годзе паўстала схізма на ўсходзе; Канстантынопальскі Патрыярх Міхаіл Кэруляры не захацеў падлягаць Папе Рымскаму, адлучыўся ад Рыму. Тымчасам ужо пасьля адлучэньня, з усходу, дзе панавала адшчапенства, пераносяцца мошчы сьв. Мікалая, якога так пачытаюць усе хрысьціяне, радуюцца з гэтай прычыны ня толькі хрысьціяне-каталікі лацінскага абраду, але й хрысьціяне праваслаўныя, славяне з Усходу. Паўстае пытаньне—чаму? А гэта таму, што славяне на ўсходзе яшчэ былі ў лучнасьці з Рымам, цешыліся ды на памятку гэтага радаснага здарэньня, што сьв. Мікалай прабывае ў Бары, у каталіцкай сьвятыні, сьвяткавалі і сьвяткуюць сьвята Перанясеньня Мошчаў.

Хаця пазьней, трудна сказаць калі, некаторыя гісторыкі кажуць, што ў XV стагодзьдзі, таксама і славяне на ўсходзе пайшлі за прыкладам грэкаў ды парвалі лучнасьць з Рымам, аднак-жа сьвята, якое зьяўляецца доказам лучнасьці славян з Апостальскім Пасадам ў Рыме, засталося.

Сьв. Мікалай Цудатворац вельмі пачытаецца на ўсходзе, асабліва ў Расеі. Няма такой царквы, дзе ня было-б хаця іконы сьв. Мікалая. На яго чэсьць часта адпраўляецца малебен або сьпяваецца акафіст. Праваслаўныя, паважаючы сьв. Мікалая, думаюць, што гэты сьвяты Цудатворац не паважаецца каталікамі, думаюць, што сьв. Мікалай—сьвяты Праваслаўнае Царквы, а не Каталіцкае. Гэта няпраўда, і ў ка-

талікоў сьв. Мікалай пачытаецца, сьвята яго абходзіцца, як і ў праваслаўных, 6 сьнежня. Мошчы сьвятога Цудатворца знаходзяцца ў каталіцкай сьвятыні ў горадзе Бары ў Італіі.

Няма ніякага сумніву, што сьв. Мікалай ёсьць супольны сьвяты, як каталікоў, так і праваслаўных. Сьв. Мікалай жыў яшчэ тады, калі ня было ніякай розьніцы паміж праваслаўнымі ды каталікамі, усе былі злучаны ў адну Царкву Хрыстову пад кіраўніцтвам павадыра — Рымскага Япіскапа, наступніка сьв. Пётры Апостала.

Гэта вельмі прыкрае зьявішча, што хрысьціяне, каторыя вераць у аднаго і таго самага Бога, пачытаюць тую самую Божую Мацер — Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, пачытаюць тых самых сьвятых, як напрыклад сьв. Мікалая Мірлікійскага Цудатворца, аднак паміж сабой падзелены, нават чуюць нейкую варожасьць. Як няма іншых багоў, толькі адзін ёсьць Бог праўдзівы, як адзін Хрыстос ды Найсьвяцейшая Багародзіца, так не павінна быць розных вераў хрысьціянскіх, павінна быць толькі адна. Сьвятыя супольныя, каторых пачытаюць, як праваслаўныя, так і каталікі, вельмі сумуюць, што іх пачытацелі падзелены паміж сабою. Як паміж імі няма розьніцы, усе становяць адну Сьвятую Хрыстову Царкву, усе разам супольна праслаўляюць аднаго Бога, так напэўна жадаюць, каб і на зямлі паміж хрысьціянамі ня было падзелу на варожыя групы, каб усе **„едиными усты и единымъ сердцемъ славили и прославлялн пречестное и великолѣпное имя Господне“.**

У супольнай лучнасьці — нашая супольная карысьць. У еднасьці — сіла, гэтай сілы нам патрэба асабліва ў нашыя часы, калі вораг Хрыста ня сьпіць, калі камуністыя, масоны ды іншыя розныя бязбожнікі лучацца ў барацьбе з рэлігіяй, у барацьбе з Хрыстоваю Царквою; вельмі важна, каб і хрысьціяне падумалі аб лучнасьці.

Якая можа быць лучнасьць? — Толькі такая, якая калісь была ў Сьвятой Царкве Хрыстовай, якую ўстанавіў сам Ісус Хрыстос. У нашыя часы розныя цэрквы пратэстанскія, англіканскія ды праваслаўныя думалі стварыць супольнасьць хрысьціян праз якуюсь фэдэрацыю, штось падобнае да ведамай усім Л!гі Народаў у Жэнэве. Але з гэтага нічога ня выйдзе, не такі фундамант лучнасьці ў сваёй Царкве палажыў Ісус Хрыстос. У эвангэльлі паводле сьв. Мацьвея разьдз. 16, 18 так Хрыстос сказаў сьв. Пётры: **„Я кажу табе: ты Пётра (скала) і на гэтай скале я збудую Царкву сваю, і вароты пякельныя не перамогуць яе“.** Вось фундамант лучнасьці ў Царкве Хрыстовай — найвышэйшая ўлада, якую даў Збаўца сьв. Апосталу Пётры і якая са сьмерцяй яго не загінула, а перайшла на яго наступнікаў, япіскапаў рымскіх. Пакуль Усход прызнаваў Папу Рымскага сваім галоўным кіраўніком, у справах веры, была лучнасьць па-

між хрысьціянамі. І цяпер можа быць і павінна быць лучнасьць усіх хрысьціян, тады толькі аднак-жа яна наступіць, калі ўсе прызнавацімуць Папу Рымскага галоўным кіраўніком Царквы Хрыстовай, калі вернуцца да той лучнасьці, якая існавала ў першыя 10 стагодзьдзяў хрысьціянства.

Супольнае пачытаньне сьвятога Мікалая Цудатворца хай прывядзе нас і да супольнасьці веры. Як калісьці сьв. Мікалай тварыў вялікія цуды, жывучы тут на зямлі, так і цяпер хай выпрасіць у Госпада Бога вялікі цуд, каб паміж хрысьціянамі вярнулася лучнасьць. Праўда, паводле чалавечых сіл, гэта немагчыма, але ў Бога ўсё магчыма. Хайжа ў Госпада Ўсемагутнага Сьв. Мікалай Цудатворац выпрасіць нам вялікую ласку злучэньня. Будзем ад шчырага сэрца паўтараць: **„Святый Великій Чудотворче, Николае, моли Бога о насъ“**. Амін.

*а. Антоні.*

---

## На прысадзе.

*(Малюнкі з жыцьця).*

(Працяг).

II.

Вялікодная ноч.

Міжнародны цягнік бязупынна гнаў на паўночны-ўсход. Грукат калёс і гвалтоўнае, маланкава-скорае выбіваньне пары з катла паравоза мяшалася між сабой, бязустанку разьдзіраючы магутным гулам цішыню сьв. ночы.

Зьмяіныя вочы-рэфлектары далёка разганялі цемрадзьса шляху шалёнага бегу, а страшны, моцны рык сырэны падымаў на ногі сьпячых на станцыях дзяжурных.

Яшчэ пару гадзін і цягнік апыніцца ў варотах „чырвонага раю.“

У вагонах што-раз больш вальнела.

Відаць, мала каму хацелася адведваць „рай“ у часе Уваскрасеньня Хрыста.

У адным вагоне трэцяй клясы асталося толькі пару вечна бармочучых, пэйсатых сыноў Ізраіля, ды адзін малады — гадоў за 25 хлапец, каторы драмаў у кутку, або можа толькі што хацеў заснуць.

Але ён і ня мог заснуць, бо, каб хто ў той час заглянуў у яго душу, то пабачыў-бы ўзбураны, разьбіты стан блуднага сына, варочаючагася да бацькі.

Восем гадоў таму ўзад пакінуў родную старонку, вёску, хваравітую маці і, здаўшы зямлю ў арэнду, паехаў у Францыю на заработкі, каб, вярнуўшыся потым, паста-

віць гаспадарку на ногі, бо бацька памёр і пакінуў шмат даўгоў.

Ішло спачатку. Былі грошы ў яго і ў маці.

Але потым прылучыўся да кампаніі, каторая навучыла яго піць і такім чынам увесь свой заробак прагульваць. Паволі забыўся аб сваёй маці і прыглюх на той голас, каторы дзесь там у глыбі яго істоты казаў яму: „пакінь п'янства! Помні, што твая маці галодная твае помачы чакае!“

Так прайшло з пяць гадоў.

Але настаў крызыс. Заработкі зьніклі. А як нястала за што гуляць, то нястала і прыяцеляў. Пачаў бадзяцца. Голад і холад апомнілі яго. Так што, у канцы канцоў, пастанавіў вярнуцца да хаты. Так-сяк удалося крыху падзарабіць на дарогу і пусьціўся ў паварот.

Але чым бліжэй пад'яжджаў да хаты, тым з большаю рэзкасьцю выступалі малюнкі прошлага і сучаснага палажэньня, прыдаўляючы яго душу. Хацелася плакаць, біць, крышыць няведама каго. Чорныя думкі не давалі хвіліны супакою. Ці жыве яшчэ маці на сьвеце? Можа гора і крыўды не перанёс яе слабы арганізм? Даўно ўжо да яе ня пісаў і не даваў адрасу, дзе сам знаходзіўся. Пэўна і яна перастала пісаць да яго, не атрымоўваючы адказу.

Час цягнуўся. Гадзіны ставаліся днямі.

Хоць-бы скарэй ужо дабіцца да хаты, скончыць з гэтаю няпэўнасьцю. Штомінуты даставаў свой гадзіньнік — нейкім цудам уцалеўшы ад растраты. Яшчэ паўгадзіны. — Яшчэ дзесяць-пяць мінут і ўрэшце свая станцыя.

Цягнік спыніўся на хвілінку і наш незнаёмы апынуўся на вакзале. Начальнік станцыі ў чырвонай шапцы махнуў флажком і цягнік рвануў з месца далей. Агляну́ўшысь па пустым пэроне, дзе апрача начальніка з яго асыстаю ў сініх мундзерах, ды пары дзяжурных паліцэйскіх, нікога больш амаль ня было, пусьціўся, з невялічкім чамаданчыкам у руках, пяхтом у дарогу. Хоць ад станцыі да хаты было каля дванаццацёх вёрст і было досыць цёмна, але так яму ўелася гэная няпэўнасьць, што ня мог чакаць на станцыі дня. Пакуль затраплю, то і будзе дзень, — можа ж не заблуджу ноччу —меркаваў на шчасьце; высахшы і вялікімі дрэвамі абстаўлены набапал трахт выразна рысаваўся на фоне неба.

Выйшаўшы на гладкі гасьцінец, прыспараў добра шагу. Ня мінула й паўгадзіны, як апынуўся аж каля аднэй вёскі, скуль трахт круціў улева і ўжо далей без заломаў вёў у яго родную вёску Падазер'е, да якога яшчэ было адгэтуль добрых вёрст сем.

Каля самага трахту, ў заломе, стаяла старая цэркаўка. Сяньня ў ёй ясна сьвяцілася, і рэха разносіла тоны мэлёдыі, якой аднак-жа яшчэ ня мог вухам улавіць.

Пасунуў далей. Але ня ўсьпеў яшчэ і дзесяцёх шагоў зрабіць, як каля цэркаўкі чорнай плямай, з яснымі дзірамі, рысуючайся на небе, замігацелі агні, сьветачы, залапатаў тоненькім галаском невялікі звон і з тысячы грудзей паплыло сярод ночы ў прасторы ўрачыстае, радаснае, закранаючае нейкай тугой душы — „Воскресеніе Твое Хрысте Спасе“...

Плылі тоны мяккія, лагодныя, нявольна хапаючыя за струны сэрца — над палямі, барамі і лугамі, што цягнуліся ўздоўж трахту, адбіваліся ў падстрэшшах вёскі, мяшаліся між сабой і дзесь далёка, далёка ніклі.

Слухала гэтай песьні радасьці і ўдзячнасьці Уваскросшаму Госпаду — ўся прырода ў начной цішыні, слухаў яе і наш падарожны...

Яна яго абхапіла — затрасла ім да глыбі душы, узбурыла да дна, дабываючы наверх усё тое, што калісь заціхла, заглохла. Дрыжаў па ўсім целе. — І нас на зямлі спадабай чыстым сэрцам Цябе славіць — шаптаў дрыжачымі вуснамі. Раптам штось парвалася ў яго грудзёх. Доўгі час напружаныя, нэрвы ня вытрымалі да канца, першы раз у сваім жыцьці наўзрыд заплакаў.

Крэстны ход скончыўся.

Сьлёзы аблягчылі душу. Успакоіўшысь патрапаў далей. Мінаючы цэркаўку, забрала яго цікавасьць заглянуць у сярэдзіну... Хто-то можа правіць у ёй, — думаў сабе. Даўней-жа ў ёй ніхто ня служыў — стаяла пераважна пустой. Тут мільгатнула яму, што ў апошнім пісьме, якое яшчэ атрымаў калісь з хаты, пісала яму маці нешта аб уніятах.

Магчыма, што яны тут і пасяліліся, але ўсё роўна зайду на мінутку — сказаў сабе — і з народам пачаў праціскацца ў сярэдзіну. Цэркаўка, набітая, як зачыніць, асьвечана была з усіх бакоў сьвечкамі і лямпамі. Іконастас і аўтар тануў у зелені. Вянкі — павукі распускалі ад сталяваньня свае ногі на ўсе бакі, надаючы разам з лямпамі і сьвечкамі цэркаўцы выгляд нейкай дзіўнай, зачараванай палаты з байкі.

На таго, каторы даўно ўжо перастаў хадзіць у цэркву, зрабіла яна вельмі прыемнае ўражаньне.

Служыў малады бацюшка, бяз вусоў і барады. Хор на клірасе, пад кіраўніцтвам невялічкага, але вёрткага дзячка, якраз лоўка зацягнуў настраёвае „Воскресенія день,“ а калі скончыў, бацюшка выйшаў на амвон.

— Дарагія браты і сёстры! — Адазваўся звонкім сардэчным тонам. — Хрыстос ўваскрос! Хрыстос ўваскрос нам на радасьць і пацеху ў нашым горы й нядолі! Васкрасеньня дзень настаў. Але гляньма, дарагія, ці і ў нашай душы засьвітала ўваскрасеньне Госпада? Зірнём у нашае сэрца, ці

там няма якой чорнай плямы, каторая не давала-б Хрысту ў грудзёх кожнага з нас уваскроснуць?

А калі там яшчэ таіцца гнеў аднаго да другога, калі душу яшчэ атручвае братняя ненавісьць, то там няма Хрыста! Там яшчэ Хрыстос не ўваскрос — уваскрасеньня дзень не настаў яшчэ для тых!

Дык прасьвяцемся-ж, Дарагія, ўваскрасеньнем Госпада, адкіньма з нашага сэрца гнеў, адкіньма братнюю ненавісьць, даруйма адзін другому крыўды, а сапраўды ўваскросьне Госпад наш Ісус у нашых сэрцах і мы шчыра „другъ друга обымемъ“ і так злучаныя любоўю ў адну сямейку з чыстай душой „возносимъ“ — Христосъ воскресе изъ мертвыхъ...

Хор і народ дружна падхапіў далей. Мужчыны пачалі пабратэрску з бацюшкам, а жанчыны між сабой, цалавацца.

Наш падарожны хацеў выкруціцца як-небудзь на двор, але непрабіты мур плячэй змусіў яго чакаць лепшае хвілінкі. Прыціснуўшыся да сьцяны, з нейкім узварушэньнем пачаў прыглядацца да сцэны ўзаемнага выбачаньня.

— Вось што можа крэпка палучыць і пагадзіць людзей — узьбегла яму на думку. — Вера і то цьвёрдая жывая вера ў Хрыста. Праз восем гадоў бачыў шмат людзей розных станаў. Добра знаў жыцьцё чорнарабочых. Сачыў крыху жыцьцё інтэлігенцыі, але нідзе ня сустрэў такога настрою душы масы, як вось тут, у гэтай драўлянай, старой цэркаўцы.

Нідзе ня бачыў такога малюнку ў кінах і тэатрах, каб людзі чужыя сабе, з рознымі характарамі і паглядамі, так вось проста-сардэчна забывалі аб сваіх суседзкіх спорах, крыўдах і лучыліся сэрцам у адно.

Выразна чуў душу гэтых простых, нявучоных, у самабытнай вопратцы, людзей.

Ад гэтай сцэны веела на яго нешта мілае, свойскае. Такога настрою, якога нельга выразіць словамі, а толькі можна адчуць душой, яшчэ ніколі не перажываў.

Раптам сталася з ім штось такое, што, з боку гледзячы, хтось сказаў-бы: задрамаў стоячы ды раптам збудзіўся.

Але ня тое здарылася з ім.

Вось, водзячы вачамі па натаўпе, заўважыў у кутку царквы адну жанчыну, каторая часта падносіла хустку да вачэй, — відаць плакала. Штось кальнула яго. Пачаў прыглядацца, але твару яе ня мог пабачыць. Раптам народ падаўся ўзад і жанчына на мамэнт адвярнулася. Глянуў туды і аж страпянуўся. Сэрца забілася, як у гарачцы. Хіба прывідзелася ў вачох — не давяраў сабе. Але вось яшчэ хвіліна і натаўп адвярнуў яе зусім тварам да яго.

— Мамачка мая! — чуць ня крыкнуў на ўсю царкву. Гвалтоўна расьпіхнуўшы зьдзіўленых людзей, упаў на калені перад ёю.

— Мамачка, даруй!—з плачам цалаваў яе рукі.

— Міхаська! — Сынок мой! — абняўшы яго за шыю, плакала маці.

Сьлёзы і гора маці перайшлі ў сьлёзы шчасьця і зьліліся з гарачымі сьлязьмі раскаяньня.

У бязьмежнай матчынай любові патанулі ўсе крыўды сыноўскай няўдзячнасьці...

III.

Хрыстос уваскрос! Воістіну уваскрос! адказаў Максім.

—Ведаеце,Максім,што — Праксэдзін Міхась вярнуўся,— прынёс навіну Грыгоры на першы дзень Вялікадня.

— І добра зрабіў — але калі-ж ён навінуўся?

— Учора ўночы, і то адразу натрапіў на сваю матку ў уніяцкай царкве за возерам.

— Дзіўна! Але як-жа ён туды папаў?

— А вось трапаў пехатою са станцыі ды прыйшоў якраз на крэстны ход каля першае гадзіны ўночы. Я ўчора зайшоў туды паглядзець, як правяць уніяты на Пасху.

Крэстны ход скончыўся, бачу я ўціснуўся ў царкву нейкі чалавек ня тутэйшы, на гарадзкі лад адзеты, ды з чамаданам у руках. Здаецца мне — нешта знаёмае. Прыпамінаю, Міхась—ня Міхась, але ніяк я не пазнаў. Аж тут у часе прабачаньня пазнаў ён у таўпе сваю матку, ды як ня грымне на калені перад ёю, як не пачне прасіць са сьлязьмі — мамачка даруй — ведаеце! Я стары ўжо хрэн, але ад такой сцэны чуць не расплыўся. Бабы плакалі ўсе разам з Праксэдаю наперабой. Цьфу прападзі — шануючы гэты сьвяты дзень—вось давялося чалавеку на старасьць,—сьмяяўся над сабой Грыгоры.

— Ну й маладзец-жа гэты Міхась — сказаў Максім — хоць столькі крыўды нарабіў матцы, пакідаючы яе ў чужых, на ласкавым хлебе, аднак-жа не пастыдаўся яе пры ўсіх перапрасіць. Гэта адно ў маіх вачох зьнімае з яго чуць ня ўсю віну і за гэта толькі ўжо можна яму дараваць грахі моладасьці.

— А я яму за гэткія штукі ня толькі не дараваў-бы, але расьцягнуўшы, выдубіў-бы скуру так, каб ён век помніў, як трэба бацькоў шанаваць ды даглядаць, — умяшаўся Антось Канцавы, каторы, надыйшоўшы у той час з мужчынамі, прыслухоўваўся моўчкі да навіны.

Што ты ўжо з дарослага выб'еш?—бараніў Максім Міхася. — Малому то скарэй можна душы нагнаць, але вялікага ты забі, то ня знаю што з яго выйдзе. Нагоніш толькі ў яго заўзятасьць і злось працій сябе і больш нічога. Бо, каб дарослы чалавек паправіўся, то трэба каб яго душа стала на добры лад, а гэтага дубка скуры не дакажа.

— О, я яму-б даказаў, каб я быў яго бацькам! Перавярнулася-б уся ягоная вантроба на добры лад, аж міла, ад майго лякарства — злаваўся Антось.

— А за што-ж, дзядзька, так хочаце катаваць Міхася, можа яму цяжка было з заработкамі і таму нічога маці не памагаў? — заступіўся Саўка за свайго равесьніка.

— Я ўжо добра ведаю, ці яму было цяжка, ці не і ці ён вінаваты, ці не? Мой швагра быў там таксама і часта нават бачыўся з ім, ведае дужа добра ягонае жыцьцё. Няхай ён толькі мне навінецца пад рукі. Я ўжо выдам яму такую навуку, якой яму ніводзін поп ня скажа — рэзаў Антось без міласэрдзя.

— Ну, ня можна ўжо так востра судзіць чалавека— пачаў Максім ладзіць, пацяшаць Антося. — Вінават то вінават, але калі пакаяўся пры ўсіх, то напэўна пастараецца паправіць цяпер тое, што папсаваў у гаспадарцы за гэты час і матку пасыноўску дахавае да сьмерці. Ведама быў малады — зялёны. І з нас не адзін ня лепш паступіў-бы, калі-б апынуўся ў падобных абставінах. Няма яшчэ нічога страшнага.

Мужчыны падзяліліся на два ваюючыя абозы, і той абоз, які адносіўся лагадней да правіны Міхася, перамагаў, бо за ім была большасьць, ды за ім стаяла таксама ўся моладзь.

## IV.

Другі дзень сьвята. Падазерцы народ багабойны, гуртам сунуў у царкву.

Адны звычайна кіраваліся да свайго, а другія з цікавасьці хадзілі да уніяцкага бацюшкі, за возера.

Хацелася пазнаць, дзе лепш правіцца і чым уніяцкая вера розьніцца ад праваслаўнай.

Адны хвалілі — другія ганілі. Было шмат і такіх — а перад усім сярод старэйшай моладзі, каторыя, пад уплывам нейкага вольнадумнага, сэктанцкага або чыста камуністычнага духу, ўсе веравызнаньні ўважалі за добрыя, або проста адкідалі „ўсю царкоўную трухляціну"—як казалі — з жыцьця, як непатрэбнае лахмацьцё.

Галоўнаю асноваю іх „веры" было, наладзіць палюдзку жыцьцё чалавека, а на рэлігію заглядаліся, як на нешта такое, што толькі заважае ў жыцьці, а не памагае.

Жыцьцё вольнае, поўнае, апертае на роўнасьці і справядлівасьці — вось фундамант іхняй рэлігіі.

Са старэйшымі, ня меў Максім у сваей вёсцы — надта вялікага клопату. Заўсёды лёгка мог разьвязаць усе труднасьці, пераканаць — разагнаць няведу гэтых проста думаючых, і веруючых людзей. Але з маладымі прыходзіла-

ся куды трудней. Тут ужо зусім другі быў кругазор сьветагляду і пераканапьня. Маладыя бралі загадку жыцьця з практычнага, конкрэтнага боку. Дзеля таго, ня будучы ані філёзофам, ані багасловам, мусіў часам добра напацецца — пакуль якую справу так сяк удалося рашыць. Каб-жа даць ім рады, пачаў часьцей заглядаць у кніжкі, якія меў, шукаў у іх сабе помачы і стараўся скіраваць здаровы рух моладзі на шлях адвечнае праўды, сьцягнуць яе як-небудзь з бездарожжа, на якое яна ўзыходзіла.

Гэта справа найбольш не давала яму спакою і проста мучыла бязупынна.

Як гэты вузел позытыўна разьвязаць? — Сам ня ведаў, пакуль-што пачаў аглядацца за памоцнікам, ды думаць аб заснаваньні гуртка свае моладзі.

— Ты сабе кажы, што хочаш, але брат лоўка правіць уніяцкі бацюшка, — спорыў Грыгоры з Антосем, седзячы ўжо пад вечар на прысадзе.

— І што там за лоўка — даводзіў сваё Антось — я то нічога тут лепшага ня бачу. Адправіць так сама, як і наш. Ніякай розьніцы я ня бачу.

— Эх, брат, не гавары! Трэба добра прыгледзецца да ўсяго, прыслухацца, як добра пяе і як рэжа навуку — тады пабачыш лепш — цьвярдзіў сваё Грыгоры.

— Яно то, так сказаць, можа й лепшая ёсьць вера уніяцкая, але па праўдзе, тут ніяк не разьбярэш. Адзін правіць добра і другі не астаецца. Той сваё цьвярдзіць, а той сваё, і кожны цягне да сябе, а ты, чалавеча, як быў піўной бутэлькай так і застанешся ёю да магілы. Ня нам разьбірацца ў гэтых справах, а лепш слухаць свайго бацюшкі, як нашы дзяды слухалі, і будзе добра — ўмяшаўся стары Сымон, выняўшы сваю слаўную люльку з зубоў.

— Не, Сымон — так ня ідзе, як думаеце — адазваўся Максім з хаты праз адчыненае вакно. — Думаеце, што, калі бацькі нашы былі такімі цёмнымі, закаджанымі як вось гэты твой гаршчок, то і далей так мае быць? Ці-ж ужо для нас няма праўды і да яе нам нельга дайсьці? Ды ня можна ўжо так махаць рукой на ўсё! Калі нашы дзяды блудзілі, мы блудзім у цемнаце і горы і знаем, што з нас дурных людзі сьмяюцца, то за што-ж нашы дзеці маюць пакутаваць і нас праклінаць?

Не, брат, так нельга гаварыць! Праўда ёсьць і для нас! І мы мусім яе шукаць — за яе змагацца. І хоць можа мы яе не пазнаем, але моладзі нашай пакажам просты шлях да яе, уратуем ад загубы!...

Максім разгараўся. Словы цьвёрдыя, кутыя сыпаліся як каменьне. Чорныя бровы засунуліся ў казла, а з-пад іх вочы блішчэлі агнём.

Тымчасам сабралася пад хату вялікая грамада мужчын і з моладзі прышлі таксама прадстаўнікі.

Калі Максім на хвіліну спыніўся, каб набраць духу, дык Андрэй — прадстаўнік маладога пакаленьня — пасьпеў ужо заатакаваць красамоўцу.

—Гэта ўсё добра і надта прыгожа, але дзе яна сяньня ёсьць на сьвеце гэта праўда? Сяньня, дзе кулак мацнейшы там і праўда жыве. А як чалавек слабы — то на гэтым сьвеце ён яе не пабачыць. Кажаце праўда ёсьць—але, як яе знайсьці. Вось хоць-бы ўзяць напрыклад рэлігійныя справы ў нас. Ксёндз сваё, поп сваё, а уніят яшчэ штось новае выдумаў. Дахадзі цяпер, хто з іх мае рацыю. А зачапі іх, то кожны табе дакажа чорнае на белым, што толькі ён знае „ісьціну“ З гэтага ўсяго ясна відаць, што няма праўды на сьвеце, але яе мае кожны паасобку, ці ён будзе паляк, ці праваслаўны, ці уніят, ці жыд, ці турак — гэта ўсё роўна.

Да аднаго Бога ўсе моляцца, а розьніцы паміж імі, то гэта ўсё глупства.

Грунт, абы можна было жыць чалавеку жыцьцём, як мае быць, а не цярпець голад праз цэлы свой век.

Заносілася на заўзяты спор. Усе былі цікавыя паслухаць разьвязкі, бо гэта справа ўсіх жыва датыкала.

Нічога аднак з гэтага сяньня ня выйшла. А гэтаму вінаваты Міхась, каторы якраз на той мамэнт прыйшоў. Вочы ўсіх і вочы зьвярнуліся да гасьця, які ад васьмёх гадоў, першы раз завітаў у сваю родную вёску.

(д. б.) **І. Дубоўскі.**

---

# Хлеб жыцьця.

Да вас, каторыя не прыступаеце да Сьв. Прычасьця, або прыступаеце да Яго рэдка калі, зьвернены гэтыя словы. Да вас, каторыя вельмі нешчасьлівыя і каторыя ўпадаеце ў яшчэ горшае няшчасьце. Не адкідайце гэтае карткі, пісанае з вялікаю любоўю і спачуцьцём да вас. Прачытайце яе да канца і затрымайцеся над тым, што яна ў сабе зьмяшчае, а можа зразумееце сваё няшчасьце і пашукаеце ў ёй падмогі.

Хачу вам падаць словы не свае, а словы Госпада Нашага Ісуса Хрыста. Чалавек можа памыляцца. Госпад Ісус Хрыстос не памыляецца. Гэта словы непамыльнага Бога.

Пра Сьв. Прычасьце Госпад Ісус Хрыстос кажа: „Хлеб гэты, што з неба зыходзіць, такі, што той, хто есьць яго, не памрэ“ (Іоан. 6, 50).

Разумееш, браце? Хто прымае Сьв. Прычасьце і, ведама-ж, прымае яго годна, той не памрэ. А хто ня прымае?...

Адказ прыходзіць сам сабою, што гэткі памрэ. Але сказана гэта ў іншым месцы яшчэ ясьней, так што ні аб чым іншым ня трэба дагадвацца. Ясна сказана:

„Запраўды, запраўды кажу вам: калі ня будзеце есьці Цела Сына Чалавечага і піць Крыві Яго, то ня будзеце мець у сабе жыцьця" (Іоан. 6,53).

Ня будзеце мець жыцьця — гэта значыць: памрэце. Хто прымае Сьв. Прычасьце, той не памрэ, а хто ня прымае, той памрэ.

Словы Госпада Ісуса Хрыста, браце, Госпада Ісуса Хрыста. Непаграшальныя словы Бога-Чалавека!

Мо' яшчэ не разумееш гэтых словаў? Мо табе прыходзіць да галавы пустая думка: гэтулькі часу ня прымаю Сьв. Прычасьця, а аднак-жа здароў і добра чуюся, — вунтая кожны дзень прыступае да Сьв. Прычасьця і аднак-жа памёрла ды яшчэ й маладая, — памрэм і так усе, з Прычасьцем і бяз Прычасьця.

Не кажы гэтак. Не аб сьмерці цела гаворыць Госпад Ісус Хрыстос. Гаворыць Ён аб сьмерці, у сто разоў страшнейшай, бо аб сьмерці душы. Калі ня будзеце есьці Цела Сына Чалавечага — душы вашыя памруць, будуць мёртвыя.

Трудна гаварыць аб душы ясна. У чалавечай мове няма словаў, каторымі можна было-б прадставіць ясна тое, што датычыць душы. А аднак спрабуем. Хачу, каб ты, браце, каторы доўга абходзіўся без Сьв. Прычасьця, угледзеўся ў сваю ўласную душу і пераканаўся, ці жывая яна, ці мёртвая.

Ты бачыш у садзе два дрэвы. Пра адно з іх ты кажаш, што яно жывое, а пра другое кажаш, што яно сухое, мёртвае. На якой аснове гэтак кажаш?

На жывым дрэве штогоду зьяўляюцца новыя лісткі, новыя галінкі. Разьвіцьцё яго не стаіць на адным месцы, але прадоўжваецца заўсёды. Усе больш і больш, буйней і раскашней і ўсё вышэй ды вышэй... А на мёртвым дрэве нічога не прыбывае. Прыйшла вясна і на ім ніводзін лісьцік не зьявіўся. Стырчаць толькі сухія галінкі дый тыя гніюць і распадаюцца. На нішто гэтае дрэва, — толькі зрубаць ды кінуць у агонь.

Нешта падобнае адбываецца і з чалавечаю душою.

Калі душа жыве, дык ёсьць у ёй рух, поступ, рост. Робіцца яна ўсё лепшаю ды лепшаю і шляхотнейшаю. Вось раней яна менш малілася, а цяпер усё больш ды больш. Раней больш грашыла, а цяпер менш. Раней горш разумела сьвятую веру, а цяпер што раз дык лепш. Душа расьце, разьвіваецца, не стаіць на адным месцы.

У мёртвай душы гэтага ня бачым. Якою была некалькі гадоў назад, гэткаю яна засталася і цяпер. Стырчаць

толькі сухія галінкі. Наадварот, можа зрабіцца яшчэ горшаю, мо' раскладаецца, гніе?

Калі ты гэта добра зразумеў, дык угледзься ў сваю ўласную душу. Рэдка ў яе заглядваеш, рэдка аб ёй думаеш. Нялёгка табе будзе адразу ўбачыць яе ў запраўдным сьвятле. Але можна гэта зрабіць вось як:

Ад часу да часу, ты-ж вельмі рэдка спавядаешся. Гэта ёсьць час, калі павінен глянуць у сваю душу. Дык прыпомні сабе, як выглядала душа твая на споведзі, колькі гадоў назад, пасьля два гады назад, можа ў апошні год, нарэшце, як выглядае яна цяпер? Ці не заўважваеш, што спавядаешся ўсё з тых-жа самых грахоў? Гады мінаюць, а няма ніякага запраўднага папраўленьня. Стаіш на адным месцы. Бачыш? У працягу гэтулькі гадоў дрэва ня вырасла ні на цалю. Наадварот, можа ты зрабіўся нават горшым, як раней, маеш болей і горшых грахоў? Бачыш? дрэва пачынае раскладацца і гнісьці...

Што робіцца з душою тваёю, браце? Яна .. няжывая...

Калі ня будзеце есьці Цела Сына Чалавечага і піць Крыві Яго, ня будзеце мець у сабе жыцьця.

Споўнілася... Споўнілася на табе.. на табе!

А калі няма жыцьця тут — на зямлі, — дык і на тым сьвеце яго ня будзе... Мёртвае дрэва будзе выкінена ў агонь...

Дайшлі мы да думак цяжкіх, страшных. Але не ўпадай у роспач.

Ёсьць розьніца паміж душою чалавечаю і дрэвам. Дрэва, каторае высахла, ужо не ажыве. Чалавечая душа, пакуль знаходзіцца ў целе, можа адрадзіцца.

Ты ня еў гэтага хлеба, дык памёр духам. Пачні есьці— устанеш і будзеш жыць.

„Хто есьць хлеб гэты, жыць будзе вечна,“ — так сказаў Госпад Ісус Хрыстос (Іоан. 6, 51).

А таму, ідзі, браце, хутчэй да Сьв. Прычасьця, папярэджваючы Яго добраю споведзьдзю.

Не чакай вялікоднага (пасхальнага) Прычасьця. А пасьля гэтага Прычасьця прыступай да Яго часьцей. Ці ня могбы ты хоць раз на тры месяцы? Або і кожны месяц? А ёсьць такія, што кожны дзень прымаюць гэты хлеб жыцьця,—гэтак моцна хочуць жыць вечна. Хай прымаюць, абы толькі годна.



# КУТОК ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



## Дарагія дзеці!

Усім вам вядома, што вашыя равесьнікі ў Савецкай Расеі знаходзяцца ў цяжкіх варунках адносна да рэлігіі. Ворагі Бога і Царквы імкнуцца ўсімі сіламі вырваць з сэрцаў хрысьціянскае моладзі ўсю веру і любоў да Бога, выхоўваючы яе ў поўным няведаньні аб Богу, а нават і ў ненавісьці да Яго. Гэты факт балюча адбіваецца на ўсім каталіцкім грамадзянстве. Ня маючы ніякіх спосабаў, каб процідзейнічаць гэтаму

выпяканьню рэлігійных пачуцьцяў з маладых душаў, многія пастанавілі маліцца аб міласэрдзі Божым для савецкай моладзі. А дзеля таго, што малітва каталіцкіх дзяцей больш за ўсе іншыя мілая Богу, дык ужо ў працягу некалькіх гадоў заведзена ўва ўсіх каталіцкіх народаў, каб каталіцкая моладзь 8-га чысла месяца траўня прыступала да Сьв. Прычасьця, з мэтаю памагчы сваім равесьнікам у Расеі.

Дзеля таго, што сьв. Тэрэса Дзіцятка Ісуса ў дзень 8-га траўня першы раз прыступіла да Сьв. Прычасьця, дык гэты дзень выбраны дзеля вышэйуспомненае мэты, як угодкі першага Прычасьця сьв. Тэрэсы Дзіцятка Ісуса — заступніцы і апякункі місіяў на тэрыторыі Расеі.

---

# 12-гадовая рыцарка.

Мар'я Вашчук — бедная работніца з вёскі Гарошкаў на Падлясьсі — мела чацьвёра дзетак. Дзеля таго, што яна моцна трымалася каталіцкае веры і не хацела быць адступніцаю ад уніі, дык часта царскі ўрад накладаў на яе штрафы за тое, што не пазваляла, каб праваслаўны сьвяшчэньнік паўторна хрысьціў яе дзеці, ужо раней ахрышчаныя пакаталіцку. Муж яе — чалавек разумны, рэлігійны і меўшы ўплыў на сваіх суседзяў, быў вывезены ў глыб Расеі, а яна, застаўшыся з малымі дзяцьмі, павінна была падвоіць работу, каб пракарміць сябе і дзеці свае.

Аднойчы паліцэйскія вураднікі, даведаўшыся, што маці выйшла з старшаю дачкою на работу, паклікалі валаснога старшыню з пісарам, выламалі дзьверы, каб увайсьці ў маленькую хацінку беднае жанчыны.

Маленечкая апякунка дваіх пакіненых у хаце дзяцей, дванаццацьгадовая дачка Мар'і Вашчук, схавала старшага — трохгадовага — дзяцёнка ў курніку, а малодшага ўзяла сабе на рукі і пачала крычаць так, як быццам у хату ўлезьлі дзікія зьвяры. Паліцэйскія стараліся вырваць маленькага дзяцёнка з рук у дзяўчынкі, але яна баранілася крыкам і нават зубамі. Адны з нападчыкаў-вураднікаў стараліся заціснуць ёй рот шабляю, а іншыя ўзялі яе за галаву і за ногі і вырвалі з яе рук дзіцянё, якое аж заходзілася ад плачу і жаху. Пасьля яго завінулі ў шынель, а яго апякунку кінулі на падлогу, зьбілі да паўсьмерці і гэтак пакінулі.

*(З мартыролёгіі Уніі ў Падлясьсі, Прушкоўскага).*



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**Альбэртын.** Найцікавейшым ды вельмі важным фактам зьяўляецца тое, што Айцы Езуіты ў Альбэртыне атрымалі ад Дзяржаўнае Ўлады дазвол на будову ў Альбэртыне касьцёла ды царквы ўсходняга абраду. Матар'ял ужо амаль увесь гатовы, прыступілі ўжо да працы. У зьвязку з будовай паўстала перамена братоў Т. І., — у Альбэртын перанясьлі да працы каля будовы бр. Язэпа Калэцкага Т. І., а на яго месца ў Дубно на гаспадара прыехаў бр. Станіслаў Копэркевіч.

**Дубно.** 1) У гэтым годзе Сьвяты Вялікодныя прайшлі ў Дубне вельмі ўрачыста, дзеля таго, што набажэнствы адпраўляў Я. Пр Ўладыка Мікалай. Людзей зьбіралася каля 1000. Вельмі прыгожа была прыбрана царква, усіх вянкоў можа будзе кілёмэтр даўжыні. Ажыўленьне ў царкоўным жыцьці заўважваецца што раз дык большае.

2) Гадунцы Папскае Сэмінарыі выдалі новы нумар часопісі ў розных мовах — „Друг", № 1 на 1936 г.

3) У папярэднім нумары „Да Злучэньня" падана вестка аб тым, што Сэмінарыя выдае кожны дзень 140 абедаў для бедных. Чытаючы гэтую вестку, можа хто зьдзівіцца ды падумае, скуль Сэмінарыя мае столькі магчымасьці, каб выдаваць столькі абедаў? У запраўднасьці гэта не патрабуе вялікіх расходаў: у кожнай рэзьніцы збракаваная скаціна забіваецца і гатуецца на мяса ды шмалец. Застаецца ад гэтага шмат навару ды кавалкі мяса. Вось гэты навар з рэшткамі мяса Сэмінарыя ў Дубне, дастаўшы дазвол з магістрату, выкарыстала, — крыху дадае ад сябе прадуктаў і такім чынам бедныя людзі маюць вялікую карысьць. Добра было-б, каб пры кожнай рэзьніцы наладзілася такая кухня для бедных, бо бедных усюды ёсьць шмат.

**Дубэчно,** Ковэльскага пав. У Дубэчне ёсьць, як ведама, вельмі прыгожая уніяцкая царква ды вялікая, больш як 2000 душ, парафія. Сумныя падзеі былі ў Дубэчне: напад на царкву праваслаўных, пасьля згарэла ўся маемасьць а. Гроша. У сярэдзіне сакавіка гэтага году а. Грош пакінуў Дубэчна, дзе працаваў 8 гадоў, ды перанёсься ў горад Роўно, дзе творыць уніяцкую парафію. На яго месца, у Дубэчно, назначаны настаяцелем а. Іоан Волянін, які, пакульшто, мае ў апецы і другі суседні прыход — Краску. Праваслаўныя з Ратна, недалёка ад Дубэчна, таксама просяць уніяцкага бацюшку. Адзін раз езьдзіў там а. Волянін, але ня можа адзін разарвацца, пакуль што,не стае сьвяшчэньнікаў.

**Вёска Якімаўцы,** ля Кусько́ўцаў, Крэмянецкага пав. Уся вёска праваслаўная, 600 душ, пастанавіла вярнуцца да свае

старой веры — да сьв. Уніі. Папрасілі да сябе уніяцкага бацюшку а. Гэрматюка з Куськоўцаў. Адслужыў ён ім Абедню ў іхняй царкве. Даведалася ад праваслаўнага бацюшкі паліцыя, што дзеецца. Паліцыя адабрала ад людзей царкоўныя ключы. Вельмі зьдзіўленыя былі жыхары вёскі, што паліцыя перашкаджае заводзіць сьв. Унію. Чулі ад сваіх духоўных, што Унія — гэта польская вера, дзяржаўнаю польскаю Уладаю падтрымліваецца ды шырыцца. На гэтым факце пераканаліся якімаўцы, што ў практыцы ня зусім так выходзіць. Трэба ведаць, што ў вёсцы ёсьць каля 30 хлопцаў, што паканчалі гімназіі, ня можна залічыць іх да цёмных людзей.

**Люблін**. У люблінскай дыецэзіі двума асяродкамі ўсходняга абраду загадываюць а.а. Васільяне, а іменна ў Горадлі н/Б. і ў Грабоўцы к/Замосьця. На абедзьвюх гэтых нівах улада закону, у паразуменьні з дыецэзіяльнай уладай, правяла зьмену працуючых Айцоў. У Горадлю прыбыў А. Модэст Дацышын, а ў Грабавец — А. Ірынарх Маланяк. Іх папярэднікі, а.а. Фэдорык і Грынкевіч, адкліканы да іншай працы ў манастырох свайго закону.

**Львоў.** Украінцы-Галічане маюць сваю Тэрэсу Нойман. Ёсьць ею 25-гадовая Насьця Волошын, у каторай у чэрвені м. г. пачалі паяўляцца стыгматы, спачатку на руках, затым на руках і нагах, а пасьля на баку, і нарэшце таксама на чале.

Насьця, паходзячы з вёскі Краснае, ярасла̃ўскага пав., як убогая, вясковая дзяўчына, пайшла на службу сярод чужых людзей. Ад‘значалася набожнасьцю, яе любілі за яе ціхасьць і працавітасьць. Калі пачаліся ў яе паяўляцца стыгматы, дык пачалі прыбываць да яе людзі, часам па некалькі тысяч. Узялі яе на некалькі тыдняў пад абсэрвацыю ў шпіталь, а пасьля прыгарнулі яе да сябе С.С. Васільянкі львоўскія. Падчас сьвята Божага Нараджэньня, Насьця езьдзіла ў вёску Млыны; вёска гэта, моцна падкопаная камунізмам, праўдападобна вельмі зьмянілася на лепшае, дзякуючы адведзінам Насьці.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**Перад 80-ымі ўгодкамі нарадзінаў Папы.** Офіцыяльны бюлетэнь італьянскай Каталіцкай Акцыі абвяшчае, у зьвязку з распачынаным 31 траўня ў поўні здароўя 80-тым годам жыцьця Яго Сьвяцейшасьці Папы Пія XI, адозву, у каторай заклікае да Рыму на дзень 31 траўня ўсіх дырэктароў і асыстэнтаў касьцельных дыецэзіяльных арганізацыяў Каталіцкае Акцыі для выражэньня сьв. Айцу любові і ўдзячнасьці, а таксама шчырых да Яго пачуцьцяў. Згодна з праектам італьянскай Каталіцкай Акцыі ў назначаным дні 31 траўня зьбяруцца ўсе дырэктары Каталіцкай Акцыі на ўрачыстае, понтыфікальнае набажэнства ў Базыліцы сьв. Пё-

тры, каторае адправяць сябры сьв. Кардынальскай Калегіі. Папаўдні гэтага дня ўчасьнікі зьезду будуць прыняты на спэцыяльнай папскай аўдыенцыі. Гэтага-ж дня адбудзецца ўрачыстая інаўгурацыя новага прыгожага палацу рымскіх конгрэгацыяў. Заснована нядаўна Сьвятой Сталіцай інстытуцыя „Peregrinatio Romana ad Petri sedem“, маючая заданьне падтрымліваць і коордынаваць рух пілігрымаў да Рыму, выдала да сваіх камітэтаў адозву, заклікаючую далажыць стараньняў, каб у дзень 31 траўня перад сьв. Айцом зьявіліся прадстаўнікі Каталіцкае Акцыі з усяго сьвету.

— „Osservatore Romano“, пішучы аб надыходзячых угодках папскіх нарадзінаў, выражае радасьць, што 80 ты год свайго жыцьця пачынае Піус XI з годнаю зьдзіўленьня сьвежасьцяй розуму і падчырквае, што ані адзін год яго понтыфікату ня мінуў без таго, каб ня было споўнена штосьці вялікае і трывалае, што не зьяўлялася-б у гісторыі Царквы здарэньнем эпохальнай вартасьці. Злажыліся на гэта: імкненьне да ўзмацненьня місійнай дзеяльнасьці, стараньне аб якнайбольшым разьвіцьці духавенства, аб яго жыцьці, ведзе і магчымасьці дзейнасьці, распараджэньні аб утрыманьні годнасьці ў будове і выпасажэньні сьвятыняў, энцыклікі ў справе выхаваньня моладзі, хрысьціянскіх жанімстваў, вырашэньня справаў соцыяльных, і ў канцы — лятэранскія ўмовы.

**Правал бязбожніцкае прапаганды ў Саветах.** Кіраўнік прапаганды бязбожніцтва ў савецкай Расеі, Яраслаўскі, зьмясьціў у „Маладой Гвардыі“ артыкул, у каторым прадставіў вынікі акцыі рады чырвоных бязбожнікаў. Аўтор прызнаецца да таго, што бязбожнікам не ўдалося зьнішчыць рэлігіі і царквы. Аказалася, што рэлігія і царква маюць больш жывучых сіл, чымся спачатку прыпушчалі.— Ня гледзячы на ўсялякія высілкі, — піша Яраслаўскі, скіроўваныя з мэтай выкараненьня веры, сяньня існуе ў Саветах ня менш як 40 тысяч розных рэлігійных грамадаў. Калі прыняць, што кожная грамада мае па 20 кіраўнікоў, дык агульная лічба людзей, вакол каторых з'арганізаваліся гэтыя грамады, будзе роўнай 800.000. Усе 40.000 грамадаў маюць свае ўласныя памяшчэньні, свой хор, сваіх прамоўцаў. Сіла гэта неабыякая. Абаронцамі рэлігіі і яе прыхільнікамі зьяўляюцца ня толькі ксяндзы, рэшткі кулакоў, манахі і манашкі, але таксама мільёны сялян і нават часьць работнікаў. Досыць сільны яшчэ ўплыў рэлігіі заўважваецца ў штодзенным жыцьці. Здараюцца яшчэ выпадкі, а перш за ўсё на ўсходзе, нападаў на бязбожнікаў, а тым больш на бязбожніц.

Яраслаўскі лічыць, што барацьба з рэлігіяй, паміма ўсяго гэтага, павінна прадаўжацца далей. Аднак „сяньня трэба яе весьці іншым спосабам, чымся дасюль. Мінуў ужо

час буры і рэпрэсіяў. Цяпер жадаем здабываць ня лічбу сяброў для Рады бязбожнікаў, але ўзгадоўваць пасьлядоўных атэістых і ўцьвярджаць іх у матэрыялістычных паглядах“, — цьвердзіць Яраслаўскі.

**Харбін.** С.С. Уршулянкі, каторыя ад некалькіх гадоў утрымоўваюць у Харбіне, у Манджурыі, гімназію і пэнсыёнат для расейскіх дзяўчат, з дазволу Сьв. Сталіцы, практыкуюць усходні абрад. Нават маюць ужо асобны новіцыят усходняга абраду. 11 лютага б. г. адна з сёстраў-манашак, С. Агнія Мальчэўская, складала ў гэтым абрадзе свае манашаскія, вечныя шлюбы, каторыя прымаў Апостальскі Адміністратар Архімандрыт Фабіян Абрантовіч. С. Агнія зьяўляецца дачкой паляка-гэнэрала расейскай службы перад вайной, радзіўшайся і ўзгадованай у Расеі, заўсёды лятуцела аб здабыцьці расейцаў для Царквы. Прыбыўшы ў Польшч, скончыла тут гімназію, адбыла законны новіцыят і праз нейкі час студыявала гісторыю ў кракаўскім унівэрсытэце. У Харбін выехала летам 1935 г.

**Парыж. Патронка радыя.** У Францыі за Патронку радыя і тых усіх, каторыя супрацоўнічаюць з радыёвай прапагандай, выбрана „Божая Маці Добрай Навіны“ (Notre Dame de Bonne Nouvelle). Нядаўна ў касьцёле пад Яе названьнем адбылося ўрачыстае набажэнства ў прысутнасьці архіяпіскапа Парыжа кардынала Вэрдіе (Verdier), прадстаўнікоў ураду, рэпрэзэнтантаў навукі, а таксама тэатральнага і фільмовага сьвету. Сьв. Літургію адслужыў сьвяшч. Кафарэль (Caffarel), гэнэральны сэкрэтар каталіцкага фільму і каталіцкай радыёвай цэнтралі. Пасьля эвангельля меў казаньне суфраган Парыжа mgr. Baussart, у якім падчыркнуў узрастаючае распаўсюджаньне радыя і вялікае значэньне радыя ў моральнай і выхаваўчай галіне. Робячы вялікі ўплыў на розум людзей на ўсім сьвеце, радыё зьяўляецца сяньня магутным лучнікам, каторы паволі, але стала вядзе чалавецтва да зьяднаньня. Апрача гэтага, радыё зьяўляецца тым магутным сродкам, каторы можа даць пажаданыя вынікі ў моральным выхаваньні, перш за ўсё радыё зьяўляецца вялікай пацехай адзінокіх і хворых.

Урэшце ў галіне рэлігійнай прапаганды радыё можа сяньня прынясьці неацэненыя ўслугі галошаньнем ўва ўсіх кутках сьвету жыцьцятворчых словаў сьв. Эвангельля. Кс. Япіск. Baussart закончыў сваё казаньне жаданьнем, каб радыё ў Францыі ніколі ня было ўжыта да шырэньня таго, што зьяўляецца самалюбным, што нішчыць гармонію душаў і чыстату абычаяў. Пасьля сьв. Літургіі кардынал Verdier пасьвяціў статую Найсьв. Маткі, Патронкі радыя.

**Лёндан. Цэлы англіканскі манастыр прыступіў да каталіцтва.** Вялікае ўражаньне ў Лёндане выклікала вестка, што ўсе сябры англіканскага манастыра Аліўнай Гары, ка-

ля места Фарнгарм, ў графстве Surrey, масова прыняты ў лона Каталіцкай Царквы, адначасна прыступаючы да закону сьв. Бэнэдыкта.

**Велеград.** У слаўным апацтве (сяньня манастыр а.а. Езуітаў) у Велеградзе, на Маравах, адбыўся ў бягучым годзе цэлы рад абходаў і ўрачыстасьцяў для ўшанаваньня сьв. славянскіх Апосталаў Кірылы і Мяфодыя, з прычыны 1050-лецьця ад часу сьмерці апошняга з іх.

Сярод іншых праектаваных зьездаў асаблівае ўвагі заслужвае унійны конгрэс, каторы адбудзецца ад 15 да 19 ліпня сёлета. Лучыцца ён з традыцыямі многіх народных, перадваенных і паваенных конгрэсаў. Для тых, што цікавяцца праблемай злучэньня цэркваў, велеградзкі конгрэс зьяўляецца вялікім здарэньнем.

**Наварот у Англіі.** У працягу апошніх 25 гадоў перайшло ў каталіцтва ў Англіі і Валіі больш як 250.000 асобаў, з гэтых 310 духоўных англіканскіх і 12 пастараў.

**Кітай. Каля 100.000 кітайцаў навернена ў працягу мінулага году.** У гадавіку каталіцкіх місіяў у Кітаі, выданым нядаўна а.а. Езуітамі ў Шанхаі, падана лічба кітайскіх каталікоў разам з Манджурыяй на 2,818.839 асобаў. У мінулым годзе ахрышчана 96.680 асоб дарослых, а 495.060, як катэхумэны, рыхтуюцца да прыняцьця хросту. Гушчыня каталіцкага насяленьня Кітаю — розная, у залежнасьці ад правінцыяў. Найгусьцей заселена правінцыя Suiynan, дзе 4 проц. насяленьня — гэта каталікі; найменшая гушчыня каталіцкага насяленьня ў Sikang, на граніцы Тыбэту. З агульнай лічбы 135 парафіяў, якія знаходзяцца ў Кітаі, 22 кіруюцца краёвым кітайскім клірам. Гэтыя краёвыя сьвяшчэньнікі твораць 41 проц. агульнай лічбы кліру; у 1935 г. прыбыло 87 новых краёвых сьвяшчэньнікаў, якія зьяўляюцца таксама доказам найвялікшага ўзросту каталіцтва ў Кітаі ў апошніх гадох. Агульная лічба ўсіх сьвяшчэньнікаў у Кітаі — 4.309. Існуюць многія магчымасьці таго, што лічба краёвых сьвяшчэньнікаў у Кітаі будзе ў будучыні значна павялічана, бо-ж цяпер студ'юе тэолёгію 935 клірыкаў-кітайцаў; да меншых сэмінарыяў ходзіць 4.021, апрача-ж гэтага прыгатаўляецца яшчэ ўступіць да сэмінарыі 1.906 вучняў.

**Саветы.** Згодна з інфармацыямі украінскай прэсы, цяпер у Радавай Беларусі з 129 цэркваў асталося ўсяго толькі 30. Да іх прылічваецца 12 сьвяшчэньнікаў, што знаходзяцца на волі (зразумела, адноснай), з каторых 7 настолькі аслаблены, ці сучасным рэжымам, ці гадамі, што амаль зусім нcauseздольныя спаўняць духоўныя патрэбы. З Ленінграду выдалілі апошняга каталіцкага сьвяшчэньніка, француза-дамініканца, А. Амудру.

# Усячына.

— Вольнадумныя і соцыялістычныя часопісі абураюцца на становішча Сьв. Айца ў адносінах да італьянска-абісынскай вайны. Сам аднак імпэратар Гайле Сэляссіе задаволены з нэўтральнасьці Папы. Вышлаў ён пісьмо з падзякаю і тэлеграму на рукі апостальскага вікарыя Яроссо ў Гаррар, каб гэты даручыў яго сьв. Айцу.

— Швэдзкі кароль, Густаў, збудаваў радыёпрыймальны рэгулятар. Дзейнасьць яго гэткага роду, што спэцыяльная лямпачка выразьней сьвеціць, чым больш збліжаемся да прыйманьня хваляў якой-небудзь радыёвай станцыі.

— Ангельскі вучоны, др. Амэрсвільле, аблічыў, што на сьвеце жыве яшчэ каля мільёна людаедаў (у Афрыцы і на астравох Фіджы).

— Рэктар мілянскага унівэрсытэту, А. Гэмэльлі, Зак. Бр. Мн., „выпрадукаваў“ штучны чалавечы голас. Збудаваў фільмовы апарат, каторы „гаворыць“. Голас аднак гэты — шаблённы і бяз ніякай ахварбоўкі.

— У мясцовасьці Гагэнсатэрц, у Нямеччыне, бляхар Вільлі Трэн, 54 гадоў, зьяўляецца шчасьлівым бацькам. Нядаўна ўрадзілася яму 23-я дачка. Мае ўжо 10 унукаў. Хрышчонымі бацькамі былі: Гіндэнбург і Гітлер. Ад першай жонкі меў 12 дзяцей, а ад другой ужо 11-тае.

— У Даніі збудованы новы тып вэлісапэда, іменна: пярэдняе кола меншае, як задняе і кіруецца штырам, які знаходзіцца з боку сядла ездака.

— Бэля Кун, жыд, вядомы кіраўнік камуністычнай рэвалюцыі ў Вэнгрыі, прыбыў у Гішпанію, каб тут кіраваць акцыяй проціў Царквы. Мае вялікія грошы. Каталіцкія дзеячы пакідаюць Гішпанію. Падпал касьцёлаў і разбой зьяўляюцца на парадку дня. Кіраўнік соцыялістых, Кабальнэро, званы „гішпанскім Леніным“, заявіў, што ў найбліжэйшым часе ў Гішпаніі паўстане савецкі лад.

— Турак Serkiodglu Ali, пражываючы ў вёсцы Карабэй, лічыць сабе 137 гадоў.

— Найбольш людзей у Эўропе гаворыць паангельску, бо аж 160 мільёнаў. Другое месца займае расейская мова 110 міл., пасьля нямецкая — 80 мільёнаў, француская — 50 мільёнаў, італьянская — 45 міл. і польская — 35 мільёнаў.

**Найбольшы і найменшы чалавек.** Бязумоўна найбольшым чалавекам, каторы цяпер яшчэ жыве, зьяўляецца малады пэрс, маючы 3 м. і 20 см. вышыні, а важыць каля 200 клг. Нядаўна гэтага арыгінальнага чалавека адведаў нямецкі вучоны др. Фукс, каторы дакладна зравідаваў гэтага волата. Вялізарныя разьмеры цела не пазваляюць гэнай асобе нават утрымлівацца ў стаячай пазыцыі.

Пэрсідзкі волат мае надзвычайна разьвітае чало і ваколіцы шчок, што даказвае празмерны перарост мазгавой прысадкі.

У Парыжы тымчасам знаходзіцца найменшы чалавек на сьвеце. Гэтым карлікам зьяўляецца амэрыканец Бэрнард Рыттэр, маючы 22 гады; ён ростам 55 см. і важыць...аж 8 клг. Гэты ліліпут збудованы зусім правільна і цешыцца дасканальным здароўем. Разьвіцьцё аднак розуму Рыттэра — спозьненае, хаця не ад'значаецца недастачай інтэлігентнасьці. Гэты карлік зьбірае паштовыя значкі і вельмі любіць чытаць падарожнічыя кнігі.

**Акадэмік Паўлаў і камуністычныя бязбожнікі.** Расейская прэса на эміграцыі падае гутарку, якую меў, нядаўна памёршы, выдатны расейскі вучоны з адным савецкім жаўнерам. Паўлаў хадзіў да невялічкае цэркаўкі ў Маскве. Аднаго разу пасьля багаслужэньня сеў ён на лаўцы ў недалёкім парку. Незабаўна прысеў каля яго чырвонаармеец і, глездзячы на бедна адзетага дзядулю, спытаў з усьмешкаю вышэйшасьці:

Што-ж гэта, дзеду, здаецца верыш у буржуазнага Бога?

— А веру, мой дарагі, веру, — адказаў Паўлаў.

— Здаецца, што й да царквы ходзіш?

— А хаджу.

— От цемната! — сказаў камуністы, ня ведаючы, што гаворыць з адным з найбольшых вучоных сьвету.

**Тры Сьв. Літургіі на сэкунду.** Рэлігійны часапіс „Eucharistе" падае цікавыя даныя, што да чэсьці Найсьвяцейшых Тайнаў у сьв. Літургіі, маючай месца сярод каталікоў усяго сьвету. Ад моманту ўстанаўленьня Збавіцелем Эўхарыстыі лічба сьвяшчэньнікаў так далёка ўзрасла, што 80.000 сэкундаў, з каторых складаецца пара (суткі), г. зн. 24 гадзіны, не стае да вылічэньня менш больш 300.000 службаў Божых, штодня адпраўляных на ўсёй зямной кулі. Як з гэтага вынікае, на ўсім сьвеце днём і ўночы без перарыву тры сьвяшчэньнікі штосэкунду вымаўляюць над хлебам і віном словы консэкрацыі.

**Сьмерць эгіпэцкага караля.** З Каіру паведамляюць аб сьмерці эгіпэцкага караля Фуада I. Насьледнік эгіпэцкага пасаду, 16-гадовы прынц Фарук, прабываў у гэны мамэнт у Англіі. Да паўналецьця новага караля, згодна з эгіпэцкай констытуцыяй, улада будзе знаходзіцца ў руках рэгенцыйнае рады, у склад каторае ўвайдуць тры асобы.

**Заваяваньне Абісыніі.** 5 траўня італьянцы занялі сталіцу Абісыніі горад Аддіс-Абэбу. Нэгус са сваей сям'ёй ды сьвітай уцёк у Палестыну. Італьянцы, ўзяўшы Абісынію пад сваю апеку, устанавілі караля Італіі царом Абісыніі. Як бачым, Англія ня толькі саюзнай Расеі памагла зьнішчыцца, але і Абісынія, пад апекай Англіі, загінула.

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.